# Голас Радзімы

№ 3 (2145)
18 студзеня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Работы Мікалая ГРУЗНЕВІЧА былі высока ацэнены на нядаўняй выстаўцы, якая пазнаёміла амерыканцаў з творчасцю самадзейных мастакоў з Савецкага Саюза. Гэта не першая буйная выстаўка, на якой малады вадзіцель з маленькага беларускага горада Гарадок выстаўляе сплеценыя з саломкі аб'ёмныя кампазіцыі, пано. Нядаўка ён стаў дыпламантам усесаюзнага фестывалю самадзейнай народнай творчасці. Пяцігадовая дачка Святлана — першая памочніца ў творчым захапленні Мікалая.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

СРОДКІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ

## НАВЕДВАННЕ РЭДАКЦЫЙ

На пачатку новага года першы сакратар ЦК КПБ Я. Сакалоў наведаў Дзяржтэлерадыё БССР, рэдакцыі рэспубліканскіх газет «Звязда», «Советская Белоруссия», «Сельская газета». Ён гутарыў з журналістамі, адказаў на шматлікія пытанні. Галоўнай тэмай сустрэч стала абмеркаванне шляхоў павышэння эфектыўнасці журналісцкіх выступленняў у складаны час перабудовы.

Я. Сакалоў падкрэсліў, што нельга пагадзіцца з тымі, хто аднаznачна ўсё асуджае, ганіць. Можна і трэба крытыкаваць недахопы, але нельга агулам чарніць усё тое, што зроблена старэйшымі пакаленнямі. Трэба заўсёды даваць ацэнку, такую, якую хто заслужыў, і, вядома, таму, хто яе заслужыў. І ацэньваць зробленае важна аб'ектыўна, без прадузятасці, бязлітасна крытыкаваць тых, хто дрэнна працуе, хто бяздушны, не даваць ім ніякай скідкі. Крытыка карысная тады, калі за ёй бачыш чалавека не зласлівага, а таго, які шчыра імкнецца дапамагчы справе, прапануе канструктыўныя рашэнні.

Размова ў рэдакцыі «Звязды» — нацыянальнай газеты, безумоўна, не магла не закрануць праблемы стану беларускай мовы ў рэспубліцы. Журналісты прапанавалі хутчэй праводзіць пленумы ЦК на беларускай мове, перавесці на яе абласныя і раённыя газеты.

На чарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі будзе разгледжаны праект Закона аб мовах у БССР, адзначыў Я. Сакалоў. У гэтай справе не патрэбна спешка. Трэба ўсё рабіць грунтоўна і асэнсавана, з улікам кадравых магчымасцей, матэрыяльных рэсурсаў. Нямала ў нас шматнацыянальных працоўных калектываў, у прыватнасці, у Наваполацку, Мазыры, Гомелі і іншых гарадах. Нельга не ўлічваць і іх інтарэсы. Таму апраўданай уяўляецца першачарговая задача — правесці неабходную падрыхтоўку кадраў. Такая работа вядзецца, і вядзецца даволі шырока, актыўна. Акрамя таго, трэба ж падрыхтавацца і тэхнічна. Вырашэнне ўсіх гэтых пытанняў з'яўляецца важнай задачай партыйных камітэтаў, савецкіх органаў.

ЗОНА АСАБЛІВАЙ УВАГІ

## ПАЗІЦЫЯ ВУЧОНЫХ НЯЗМЕННАЯ

Навуковыя праблемы рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы БССР па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі разгледжаны на выязным пасяджэнні прэзідыума Акадэміі навук БССР з удзелам Міністэрства аховы здароўя і Дзяржаграпрома БССР у Магілёве.

Ва ўступным слове прэзідэнта акадэміі У. Платонава, дакладах віцэ-прэзідэнта акадэміі А. Сцепаненкі, дырэктара Інстытута радыебіялогіі АН БССР Я. Канаплі, міністра аховы здароўя БССР У. Улашчыка, старшыні прэзідыума Заходняга аддзялення УАСГНІЛ І. Нікітчанкі, выступленнях многіх навукоўцаў гучала думка, што перад беларускімі вучонымі стаяць вялікія задачы па распрацоўцы навуковага забеспячэння ліквідацыі вынікаў аварыі.

Пасля сумеснага вострага і зацікаўленага абмеркавання было зноў пацверджана, што канцэпцыя бяспечнага пражывання, прапанаваная беларускімі вучонымі замест, так званай, канцэпцыі ў 35 бэр, правільная і павінна рэалізоўвацца без прамаруджвання, як таго і патрабуе Дзяржаўная праграма.

НОВЫЯ ПРАФЕСІІ



У некалькіх савецкіх буйнейшых навучальных установах пачата падрыхтоўка спецыялістаў па метралогіі, стандартызацыі і кіраванню якасцю. Адной з такіх навучальных установ стаў і Беларускі політэхнічны інстытут, прычым супрацоўнікі кафедры стандартызацыі, метралогіі і інфармацыйных сістэм факультэта прыборабудавання распрацавалі вучэбны план, які прапанавалі іншым інстытутам краіны.

Цяпер дзве новыя спецыяльнасці — інжынераметролага і інжынера-канструктара па нестандартызаваных вымяральных сродках для машынабудаўнічых і прыборабудаўнічых прадпрыемстваў — асвойваюць 50 студэнтаў-першакурснікаў. Падрыхтоўка іх вядзецца з улікам рэкамендацый Беларускага Цэнтра стандартызацыі і метралогіі.

НА ЗДЫМКУ: з работай вымяральнай лабараторыі знаёміць першакурснікаў яе загадчык Аляксандр КУПРЭЕЎ.

АЎТАМАТЫЗАВАНЫЯ КОМПЛЕКСЫ



Вырашаць складаныя задачы комплекснай аўтаматызацыі розных відаў вытворчасці дапамагаюць распрацоўкі калектыву Мінскага навукова-вытворчага аб'яднання «Гранат». Тут ствараюцца аўтаматызаваныя комплексы пад канкрэтныя патрабаванні заказчыкаў. Сярод апошніх навінак — робатызаваныя комплексы вязання жгутоў, зачысткі, дугавой і кандэнсатарнай зваркі, лазернай і гідрарэзкі. Ключавымі элементамі такіх комплексаў з'яўляюцца прамысловыя робаты універсальнага прызначэння і сістэмы кіравання. Канструктары аб'яднання пастаянна працуюць над мадэрнізацыяй такой тэхнікі.

НА ЗДЫМКУ: вядучыя канструктары аб'яднання «Гранат» С. СКОСЫРАЎ (злева) і А. ПЕРАВЕРЗЕЎ даследуюць функцыянальныя магчымасці універсальнага прамысловага робата «Гранат-10», які прымяняецца на аперацыях зваркі і рэзання

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

## НА СУСВЕТНЫМ РЫНКУ

Шматколерная стала карта міжнароднага супрацоўніцтва калектыву вытворчага аб'яднання «Наваполацкнафтааргсінтэз» пасля прадастаўлення яму права самастойнага выхаду на сусветны рынак. Толькі ў мінулым годзе спецыялісты прадпрыемства пабывалі з рабочымі візітамі ў Злучаных Штатах Амерыкі, Францыі, Англіі, Італіі, Японіі, ФРГ, ГДР, Югаславіі, Балгарыі, Кітаі. І вось яшчэ адзін маршрутны вектар з Наваполацка — ён кіруе на поўнач, у высокаразвітую ў тэхналагічных адносінах Фінляндыю. Гарады Тампэрэ, Хельсінкі, Наантале сталі вузлавымі пунктамі.

У Наваполацку выкарысталі запрашэнне канцэрна «Валмет». Наваполачан зацікавіла яго прадукцыя — комплексныя сістэмы аўтаматызацыі і кіравання вытворчасцю. Больш за ўсё ім хацелася прыгледзецца, а пры ўдалым раскладзе і прыцаніцца да так званай размеркавальнай лічбавай сістэмы аўтаматызацыі «Даматык». Яе ўкараненне дазволіла б за кошт аптымізацыі тэхналагічных працэсаў, скарачэння страт і складскіх запасаў, іншых фактараў штогод эканоміць да шасцісот тысяч рублёў. Сярод іншых плюсаў — рост культуры вытворчасці, павышэнне дысцыпліны працы, надзейнасці абсталявання.

СУМЕСНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА

## ЗАЗІРНІЦЕ Ў «ПАБ»...

Не, гэта не англійскі шынок, хаця наведвальнікі на сервіс не паскардзяцца. Абрэвіятура ж расшыфроўваецца так: Польшча, Аўстрыя, Беларусь. А поўная назва прадпрыемства, што адкрылася ў Мінску, — «ПАБ інтэрпрадакшн карпарэйшн». Яго заснавальнікі — аўстрыйская карпарацыя «Л. Р. Трэйдзінг» і польская фірма «Сан-Пол», а з савецкага боку — шматгаліновы навукова-вытворчы комплекс «Метраном» і калгас імя Калініна Мінскага раёна.

Першых партнёраў фірма знайшла сярод буйных беларускіх прадпрыемстваў, якія маюць сучасныя базы адпачынку: прафілакторыі, пансіянаты... У чым іх інтарэс? «ПАБ» не проста арганізуе адпачынак замежных гасцей у Беларусі (і, наадварот, жыхароў рэспублікі — за мяжой), але займаецца апякунствам дзелавога турызму. Гэта толькі пачатак справы. Прадпрыемства мае намер заняцца перапрацоўкай пладоў і гародніны, вытворчасцю мэблі, будаўніцтвам гатэляў і пансіянатаў, увогуле — развіццём інфраструктуры сучаснага турызму. Дарэчы, «ПАБ» ужо адкрывае чатыры філіялы: у Вене, Люబліне, Рызе і Брэсце.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

# НЕЮБІЛЕЙНЫЯ ПЫТАННІ З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

З галоўным рэдактарам часопіса «Беларусь» А. ШАБАЛІНЫМ гутарыць карэспандэнт Т. АНТОНАВА.

**— Шаноўны Аляксандр Андрэевіч, дазвольце ў вашай асобе, асобе галоўнага рэдактара часопіса «Беларусь», павіншаваць выданне і яго калектыў з 60-гадовым юбілеем. У яго гісторыі былі свае ўзлёты, заняпады... Недзе ў канцы 70-х гадоў папулярнасць «Беларусі» была на даволі нізкім узроўні. І ўслед за гэтым — рэзкі рывок. Часопіс проста «расхоплівалі з рук», ён прываблівае смелымі для тых часоў здымкамі прыгожых жанчын, эфектным афармленнем... Якім чынам вам удалося ў тыя, даволі цяжкія, «застойныя» гады змяніць твар выдання?**

— Нас іншым разам папракалі, што дзеля папулярнасці мы скарысталі некаторыя моманты масавай культуры. Я б сказаў інакш — камерцыйны элемент. Ён, на мой погляд, у жыцці любога выдання неабходны. Чытач купіць часопіс з-за эфектнай вокладкі і абавязкова пацікавіцца, а што ж за ёй. Мы ўвялі службу ўзаемадапамогі, раздзел «Перапіска». Сталі даваць аб'явы. Між іншым, дзякуючы гэтаму, да нас павярнуліся сотні новых чытачоў.

З 400 пісьмаў у год пошта наша павялічылася да 3 тысяч.

**— Які ваш чытач! Ці ўяўляеце вы яго!**

— На жаль, спецыяльных сацыялагічных даследаванняў не праводзілася. Але мы мяркуем, што часопіс чытае самая розная публіка: і моладзь, і сталыя людзі, і навукоўцы, і рабочыя, і сяляне. Зараз многа маладых чытачоў.

**— Скажыце, вось улічваючы такі характар выдання, так сказаць, «на самую широкую аўдыторыю», ці не даводзіцца вам іншы раз падладжвацца пад густ чытача!**

— Выданне павінна трымаць вышыню і весці за сабой чытача. Гэта ісціна. З другога боку, нельга не ўлічваць і інтарэсаў чытачоў, ведаючы іх запатрабаванні. Інакш іх можна згубіць. Складанае гэта пытанне. Падладжвацца? Бадай, рэзкавата сказана. Не, мы робім так, каб для розных катэгорый чытачоў у нас было што пачытаць і паглядзець. Галоўнае тут, каб не скаціцца да абывацельскага густу. У нас ёсць свая канцэпцыя часопіса. Асноўныя аспекты гэтай канцэпцыі — папулярызацыя нашай нацыянальнай культурнай спадчыны, вяртанне яе здабыткаў народу, выхаванне духоўнасці, маральнасці ў людзей.

**— Зараз прэса вельмі разнастайная. Акрэсліваючы сваю пазіцыю, адны становяцца леваРадыкальнымі, другія правымі, нехта прытрымліваецца залатой сярэдзіны. Якая ў «Беларусі» пазіцыя!**

— Мне ўжо даводзілася адказваць на падобныя пытанні. Канешне, сказаць, што ў нас няма пазіцыі — гэта пакрыўдзіць увесь калектыў. Пазіцыя гэта цвёрдая. Яна цалкам адпавядае патрабаванням перабудовы, пажаданням нашых чытачоў. Іншым разам нас папракаюць у празмернай мяккасці... Я адказваю, што і цвёрдую лінію можна весці мяккай рукой. Я вельмі шаную «ЛіМ». Газета зараз задае тон. Робіць яна сваю справу палімаўску. Мы вядзем практычна тую ж лінію, але ўлічваем пры гэтым асаблівасці свайго выдання. Асабіста я як журналіст супраць экстрэмізму, нецярпімасці. Я за інтэлігентнасць, карэктнасць друкаванага слова. Нават у палеміцы.

**— А як складваюцца адносіны з цэнзурай! Ці даводзіцца класці ў стол нейкія матэрыялы не па свайму жаданню!**

— Самым рашучым чынам змянілася сама цэнзура. Я цяпер не адчуваю таго ціску, які быў яшчэ нядаўна з яе боку. Я меў шмат непрыемнасцей з-за некаторых, зусім нявінных публікацый. Скажам, пра экстрасенсаў. Цяпер іншым разам звоняць з Галоўліту, але ўжо больш з парадай — звярнуць увагу на той ці іншы факт публікацыі. Ціску няма, і ўсё ж ён ёсць, праўда, цяпер носіць, у асноўным, ведамасны характар. Вось, напрыклад, рабілі мы чарнобыльскі нумар. Ён атрымаўся ўвогуле неблагім, але мог быць і лепшым, каб не «зляцелі» некаторыя матэрыялы. Справа ў тым, што набор вырашыла прачытаць наша рэспубліканская камісія па Чарнобылю. І не дала магчымасці надрукаваць некаторыя матэрыялы, спасылаючыся на тое, што іх неабходна даваць з адначасовым каментарыем спецыялістаў.

**— Ну і апошняе пытанне — пра планы і задумы часопіса.**

— Я ўжо адзначыў: нацыянальная спадчына і духоўнасць народа — гэта тыя аспекты перабудовы, якія цікавяць нас цяпер найбольш. Ім і будзем аддаваць некаторую перавагу.

З 1990 года ў «Беларусі» будзе друкавацца «Біблія» на беларускай мове. Гэта не модны рэверанс у бок царквы. Прадыктавана хутчэй жаданнем даць магчымасць людзям пазнаёміцца з асноўнымі духоўнымі пастулатамі хрысціянства, выпакутаванымі шматвяковым вопытам чалавецтва. З яе кожны можа ўзяць для сябе нешта карыснае. Асабліва цяпер, калі многія згубілі ў душы веру ў высокія ідэалы і справядлівасць, сталі жорсткімі, злымі і неміласэрнымі.

Яшчэ ў нас ёсць задума выдаць на англійскай мове дадатак да «Беларусі», такі своеасаблівы дайджэст. Каб замежныя чытачы, сярод якіх, дарэчы, нямала і эмігрантаў з Беларусі, маглі пазнаёміцца з мінулым нашай рэспублікі, з яе дасягненнямі і праблемамі.

*З ЯПОНСКАГА БЛАКНОТА*

# ГОРАД-ПАБРАЦІМ ЗА ТЫСЯЧЫ КІЛАМЕТРАЎ

**Вось ужо амаль 20 гадоў падтрымлівае Мінск пабрацімскія сувязі з японскім горадам Сендай. Нядаўна там пабывала чарговая група грамадскасці сталіцы Беларусі.**

...На трэці дзень, у нядзелю, калі мы ўжо больш-менш адапціраваліся да японскага клімату і розніцы ў часе, раніцай выехалі з Токіо ў Сендай — пабрацім Мінска. Мы — гэта дваццаць мінчан. Сярод нас былі медыкі, работнікі выдавецтваў, інжынеры, прадстаўнікі прадпрыемстваў і арганізацый горада.

Уласна кажучы, наша паездка ў Японію і адбылася дзякуючы гэтым пабрацімскім сувязям, што ўстаноўлены ў 1973 годзе. Але чаму пасябравалі менавіта Мінск і Сендай, паміж якімі тысячы кіламетраў? У іх жыхароў знайшлося тое агульнае, што зближае людзей незалежна ад геаграфіі, сацыяльнага ладу краіны, зігзагаў знешняй палітыкі ўрадаў. Гэта—перажытая трагедыя. Сендай, як і Мінск, моцна пацярпеў у гады другой сусветнай вайны.

У ліпені сорак пятага жорсткія ўдары амерыканскай авіяцыі ператварылі ў руіны ўтульныя кварталы Сендая, яго гістарычны цэнтр. Былі знішчаны многія архітэктурныя помнікі, загінула шмат жыхароў. Еднасць лёсу, памяць пра ахвяры, сярод якіх было нямала жанчын і дзяцей, выклікае ў людзей натуральнае жаданне зберагчы сябе, сваіх родных і блізкіх ад магчымых бед і няшчасцяў, нараджае імкненне садзейнічаць захаванню міру шляхам развіцця сяброўскіх кантактаў гарадоў розных краін. Невыпадкова ў Сусветную федэрацыю параднёных гарадоў, заснаваную ў 1957 годзе ў Францыі, уваходзіць больш за 3 500 гарадоў з усіх кантынентаў. Мінск, у прыватнасці, акрамя Сендая, падтрымлівае сяброўскія сувязі яшчэ з шасцю гарадамі — Дэтройтам у ЗША, Луандай у Анголе, Ліёнам у Францыі, Бангалурам у Індыі, Мерыда ў Мексіцы, Нотынгемам у Вялікабрытаніі.

Так што ў Сендай — сталіцу прэфектуры Міягі, размешчаную на паўночна-ўсходнім беразе вострава Хансю, мы ехалі па ўжо пракладзенай дарозе. Да нас тут пабывала шмат мінчан: афіцыйныя дэлегацыі, групы турыстаў, спартсменаў, мастацкія калектывы, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. У Сендаі неаднаразова дэманстраваліся выстаўкі работ фотамайстроў Беларусі, дзіцячых малюнкаў, цацак і іншыя.

У сваю чаргу Мінск рэгулярна наведваюць жыхары Сендая. І не толькі. Напрыклад, прафсаюзныя актывісты акругі Тахоку (прэфектура Міягі), дэлегацыя сендайскіх метрабудаўнікоў уважліва азнаёмілася з вопытам сваіх мінскіх калег. Праводзіліся дні Сендая ў Мінску.

І што характэрна: часам пагаршалася міжнародная абстаноўка, у параднёных гарадах мянялася мясцовае кіраўніцтва, а адносіны іх жыхароў умацоўваліся, развіваліся, паглыбляліся. Так у Мінску пабывалі пяцьдзесят сендайцаў на чале з намеснікам мэра горада. Сярод гасцей было шэсць медыкаў — спецыялістаў па рэабілітацыі хворых з разумовымі і фізічнымі адхіленнямі. Яны хацелі паглядзець, як у Мінску вядзецца лячэнне такіх хворых. Вядома, просьбу іх задаволілі. Японцам паказалі спецыялізаваны дзіцячы сад, школу-інтэрнат, паліклініку. У час гэтага візіту ўрач Тамара Бачышча атрымала запрашэнне японскіх калег неведаць горад, пазнаёміцца з практыкай медыцыны.

Прасторны, светлы, дагледжаны, вельмі сучасны Сендай спадабаўся адразу. Яшчэ ў Мінску мы даведаліся, што на Сендаі адпрацоўваецца мадэль горада XXI стагоддзя. Пасля шумнага, неабсяжнага, імклівага Токіо ён нагадваў зялёны, утульны, камфартабельны аазіс. Маю на ўвазе ўменне спалучаць дасягненні навукова-тэхнічнага прагрэсу з ашчадным захаваннем навакольнага асяроддзя. І, трэба сказаць, жыхары горада-пабраціма ў гэтым дасягнулі поспехаў. Паветра, вада ў рачулцы, якая перасякае Сендай, чыстыя. У рацэ мясцовыя рыбакі ловяць нават фарэль. Сендайцы імкнуцца жыць у гармоніі з прыродай. Нам вельмі спадабалася, што ў цэнтры горада шмат дрэў, кустоў, кветак. Яны старанна дагледжаны. Праспекты, паркі і скверы Сендая ўпрыгожваюць шматлікія скульптурныя кампазіцыі. Кожны год муніцыпалітэт устанаўлівае адну такую кампазіцыю, што таксама сведчыць пра любоў жыхароў да мастацтва.

Сендайцы сур'ёзна ставяцца да падтрымання сувязей з гарадамі-пабрацімамі. У гэтым мы пераканаліся ў час візіту ў муніцыпалітэт. А калі меркаваць па колькасці фотакарэспандэнтаў і тэлеаператараў, якія здымалі там нашу сустрэчу, дык прыезд мінчан у Сендай, безумоўна, стаў падзеяй для яго жыхароў.

Прымаў нас віцэ-мэр Сендая Акаі Ацумі. Ён шчыра вітаў гасцей, успомніў свой нядаўні візіт у Мінск. Ацумі прыгадаў гутарку ў гарвыканкоме, паездку ў Хатынь, наведанне Кургана Славы. Спадабаліся яму мінчане, наша сталіца, яе забудова, беларуская прырода. Завязалася гутарка. Ацумі ахвотна адказваў на пытанні. Яны закранaлі розныя бакі дзейнасці муніцыпалітэта, гарадскіх службаў, выбарчай сістэмы і г. д. Будучыня Сендая сведчыць пра няўрымслівасць жыхароў поўначы Японіі. Горад мяркуюць ператварыць у так званы тэхнаполіс, дзе будзе ўсё самае перадавое ў свеце: лепшая прамысловасць, навука, тэхналогія, медыцына, узровень жыцця і г. д. Для рэалізацыі гэтага праекта ў 1986 годзе быў створаны адпаведны фонд.

А ў адзін з вечароў члены мясцовага таварыства японасавецкай дружбы ў атэлі «Плаза» наладзілі прыём у гонар нашай групы. На сустрэчу з намі прыйшлі людзі рознага ўзросту, сацыяльнага становішча — прыкладна каля 30 чалавек. Віцэ-мэр Ацумі і намеснік старшыні Мінгарвыканкома П. Кішкурна, абмяняліся прамовамі. Іх лейтматыў — неабходна далей паглыбляць пабрацімскія сувязі, знаёміць нашы народы з гісторыяй, культурай, традыцыямі абедзвюх краін.

Прыемная нечаканасць: некаторыя японцы, як гаворыцца, з большага, ведалі рускую мову.

— Я Юкі Ямакі, — прадставіўся нам па-руску невысокі інтэлігентны японец. Зразумела, мы ўзрадаваліся яшчэ аднаму субяседніку, бо перакладчыца Рэйка-сан пры ўсім жаданні не магла адначасова перакладаць ва ўсіх, па тры-чатыры чалавекі, групах, што стыхійна ўзніклі пасля афіцыйнай часткі прыёму. Таму знаёмства з Юкі Ямакі было вельмі дарэчы, як лыжка да абеду. Ён — музыкант. І адразу паміж ім і Уладзімірам Карызнам, вядомым беларускім паэтам-песеннікам, завязалася размова. Юкі Ямакі неаднойчы прыязджаў у СССР, дзе ў яго шмат сяброў і знаёмых. У Ленінградзе знаходзіўся шэсць месяцаў у камандзіроўцы. Наведваў Маскву. У Мінску, на жаль, яшчэ не быў. Натуральна, мы запрасілі Юкі Ямакі бліжэй пазнаёміцца з пабрацімам Сендая, музыкай беларускіх кампазітараў. Запрашэнне было прынята з удзячнасцю, і, хто ведае, магчыма, наша наступная сустрэча адбудзецца ў сталіцы Беларусі.

**Л. ТУГАРЫН.**

# МАМА, БАБУЛЯ І МЫ



**Так ужо склаўся лёс Марыны Сагайдаравай, што, акрамя трох яе дарослых дзяцей, у сям'і нядаўна з'явіліся яшчэ восем малышоў. Усе смуглявыя, чарнавокія, з кучаравымі галоўкамі. Марына Ахапаўна тлумачыць сітуацыю так: муж загінуў многа гадоў назад. Перажыць гора дапамагло толькі тое, што побач заўсёды была яе маці Людміла Іванаўна. Пераканана: многія беды адступаюць, калі побач з табой родны чалавек. Вось таму, калі падраслі свае дзеці, вырашылі дапамагчы сіротам: замест дзіцячага дома маленькі чалавек атрымае сапраўдную сям'ю! Як бы не склалася ў далейшым іх жыццё, у кожнага будзе сястра, брат, бабуля, мама. Увесь горад Жодзіна ведае шматдзетную сям'ю Сагайдаравых. Над імі ўзялі шэфства рабочыя завода, ім — асаблівая ўвага дзіцячых урачоў, работнікаў сацыяльнай сферы. Феномен інтэрнацыянальнай мнагадзетнай сям'і нараджае розныя меркаванні, але ўсе згодны ў адным — Марына Ахапаўна і Людміла Іванаўна гераічныя жанчыны.**





**НА ЗДЫМКУ: «Зімнія забавы любяць усе», — сцвярджае Марына Ахапаўна; Людміла Іванаўна і яе вучні; трохгадовая Сашанька вельмі любіць музыку.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

ШТО НОВАГА Ў БЕЛАРУСАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# ЧАС ТРЫВОГІ І НАДЗЕЙ

**Гутарка са старшынёй Галоўнага праўлення БГКТ Алесем БАРШЧЭЎСКІМ**

У МІНУЛЫМ ужо, 1989 годзе з Алесем Баршчэўскім, або як усе яго клічуць тут па літаратурнаму псеўданіму — Барскім, спаткацца ў Мінску было, мне здаецца, вельмі проста. То ён з беластоцкімі настаўнікамі ў нашым педагагічным інстытуце, то з актывістамі БГКТ у таварыстве «Радзіма», то па сваіх літаратурных справах у Саюзе пісьменнікаў ці выдавецтве. Каменціраваць гэтую з'яву залішне, можна толькі з радасцю канстатаваць: мур ветлівай адчужанасці паміж беларусамі польскімі і намі заваліўся, і мы адзін аднаго бачым у той рэальнасці, якая называецца жыццём і якую мы сёння маем. І па той бок дзяржаўнай граніцы, і па гэты.

Напярэдадні Новага года мне ўдалося, нягледзячы на яго вечную занятасць, сустрэцца з Алесем Барскім і грунтоўна пагутарыць аб праблемах нацыянальна-культурнага руху ў беларускім асяроддзі ў сённяшняй Польшчы.

— Прайшоў, можна сказаць, год каляндарны, і ён жа быў першым годам цеснага і, мне здаецца, плённага супрацоўніцтва Беларускага грамадска-культурнага таварыства з Беларускім таварыствам «Радзіма». На ўрадавым узроўні ў нас была прынята і выконваецца шырокая праграма дапамогі беларусам у Польшчы. Думаю, гэтыя акалічнасці не маглі не ўнесці новых акцэнтаў у дзейнасць БГКТ.

— Можна сказаць, што новага многа, а аптымістычнага мала. БГКТ у апошнім месяцы правяло сваё пасяджэнне пад галоўным дэвізам: «БГКТ на новым этапе!» Неабходнасць такой пастаноўкі пытання вынікала з таго факту, што радыкальна памянялася палітычная сітуацыя ў нашай краіне, што сапраўды сацыялістычная сістэма ў нас як бы перастае існаваць. Прыйшлі да ўлады зусім новыя палітычныя сілы. Апазіцыя цяпер адыгрывае галоўную ролю ў палітычным, грамадскім і культурным жыцці нашага краю. У галоўных тэзісах, прынятых на тым пасяджэнні, усё гэта знайшло адлюстраванне. Разглядаліся пытанні прынцыповыя: у чым БГКТ павінна быць такім, як было, а ў чым павінна змяніцца? Мне здаецца, што асноўныя напрамкі дзейнасці засталіся тыя ж самыя: далей будзем займацца беларускай асветай, далей будзем развіваць беларускі аматарскі рух, далей будзем клапаціцца пра развіццё беларускага літаратурнага руху, далей будзем будаваць Беларускі музей у Гайнаўцы.

Гэта ўжо тое, што было. Але што новае? Ну, я думаю, да новых ідэй і пастулатаў трэба залічыць тое, што вельмі моцна мы паставілі першы раз справу як найбольш цеснага супрацоўніцтва, з аднаго боку, з Савецкім Саюзам, з Савецкай Беларуссю, з таварыствам «Радзіма», з усімі іншымі арганізацыямі, якія праяўляюць цікаўнасць да нашай дзейнасці. І тут трэба сказаць, што ёсць ужо цікавыя факты. Паглыбілася наша супрацоўніцтва з «Радзімай», з'явіліся новыя формы кантактаў: мы заключылі некалькі дзён таму назад у Гродне дагавор паміж Галоўным праўленнем БГКТ і Гродзенскім аддзяленнем Беларускага фонду культуры.

— Гэта такое рэгіянальнае пагадненне...

— Так, так, але гэта рэгіянальнае пагадненне мае для нас, па сутнасці, цэнтральнае значэнне, таму што амаль усе формы нашай дзейнасці могуць, дзякуючы гэтаму пагадненню, развівацца. І што, можна сказаць, для нас самае раднае і пазітыўнае, то гэта тое, што пагадненне намнога больш карыснае і выгаднае для нас, чым для іх. Адным словам, Гродзеншчына як бы свядома пачынае дзейнічаць на карысць БГКТ у Беластоку.

— З пункту гледжання справядлівасці, гэта было б, бадай што, добра, таму што заўсёды варта даваць пакрыўджанаму больш, чым браць сабе...

— Правільна, бо вы можаце даць нам больш, чым мы вам. І вось з гэтага прынцыпу зыходзяць гродзенцы. Заключылі мы дагавор, які адносіцца да многіх галін нашай дзейнасці. Нашы настаўнікі ў колькасці 10 чалавек у часе зімовых канікул будуць ездзіць у Гродна, павышаць сваю кваліфікацыю. Летам нашы студэнты змогуць паехаць на працу ў калгасы Гродзеншчыны або на прадпрыемствы. Будуць абменьвацца нашы аматарскія калектывы, узаемна. Апрача гэтага, Гродзеншчына абяцае дапамогу ў будаўніцтве Беларускага музея. Былі мы ў двух калгасах, вельмі добрых — «Кастрычнік» і «Шлях камунізму», і старшыні гэтых калгасаў, актыў партыйны вельмі станоўча падтрымалі нашу ідэю будовы музея ў Гайнаўцы, задэкляравалі ўступна пэўныя сумы, даволі высокія. Так што ўсё гэта як бы адкрывае новую магчымасць нашага супрацоўніцтва з Савецкай Беларуссю.

З другога боку, далей хочам актывізаваць сваё можа і не супрацоўніцтва, але кантакты з эміграцыяй беларускай. На працягу многіх гадоў мы пра гэта ўвогуле не гаварылі ніводнага слова...

— А чаму не супрацоўніцтва? Мне здаецца, што тут супрацоўніцтва таксама можа быць...

— Несумненна, толькі тут сітуацыя падобная да гродзенскай — мы намнога менш дамо эміграцыі, чым эміграцыя можа даць нам.

— Гэта ў матэрыяльным выражэнні, але ж у духоўным...

— У духоўным — так, з тым толькі, што мы не можам разлічваць на шырокія кантакты з Захадам хаця б з тае прычыны, што тая краіна, дзе знаходзіцца найбольшая колькасць беларускай эміграцыі, страшэнна далёка ад Польшчы. Сёння білет у ЗША каштуе мільёны і мільёны злотых, так што практычна наша таварыства не ў стане паслаць кагосьці ў Амерыку... Бачыце, зноў усё пераходзіць на рэйкі матэрыяльныя.

Ну, і наступнае, новае ў нашай дзейнасці — гэта новыя адносіны з царквой. На працягу многіх-многіх гадоў адносіны паміж намі і царквой былі абыякавыя або нават часамі і непрыхільныя, не было ўзаемнага разумення, узаемнай сімпатыі. Мы сёння можа мацней, чым калі-небудзь, усвядомілі, што па сутнасці і праваслаўная царква ў Польшчы, як і БГКТ, [illegible]е на тым самым возе. Калі будзе с[illegible]е праваслаўе, то будзе слабое і таварыства, а калі будзе слабое таварыства, то гэта напэўна не дадасць сілы і царкве. І вось гэты момант лёг у аснову таго, што ў першы раз на працягу 33 гадоў існавання таварыства на пленарным пасяджэнні быў прадстаўнік біскупа беластоц[illegible]а Жалязняковіч, які, зрэшты, добр[illegible]ворыць па-беларуску, і выступаў, гаварыў пра наша супрацоўніцтва.

— Гэта вельмі важныя моманты ў вашай дзейнасці. Мяне цікавіць вось яшчэ што: як адбіваецца на БГКТ і наогул на жыцці беларусаў Беласточчыны новая палітычная сітуацыя ў... цяпер ужо Польскай Рэспубліцы? Ці спрыяе яна беларускаму нацыянальна-культурнаму руху?

— Каб жа спрыяла! Вось адзін прыклад. У нас ёсць свой пасол у сейме ад грамадска-хрысціянскага руху — Яўген Чыквін. Ён моцна акцэнтуе на сваёй нацыянальнай прыналежнасці. 16 лістапада Чыквін выступіў у сейме, па сутнасці, першы раз. Гаварыў пра становішча беларусаў Беласточчыны, пра нашы нацыянальныя справы. Ведаеце, якая была рэакцыя дэмакратычнага сейму? Зрабілі яму дэманстрацыйныя, штучныя апладысменты. Ён звярнуўся да віцэ-маршалка Тэрэсы Дабялінскай-Элішэўскай, якая вяла пасяджэнне: што рабіць? Яна гаворыць: «Канчайма дыскусію», але дала некалькі мінут, каб скончыў прамову. Чыквін пачаў гаварыць далей. Зноў бурныя апладысменты. Ён зноў звярнуўся да віцэ-маршалка, а яна кажа: «Пан посэл муві не на тэмат». Пасол забраў паперы і пайшоў, не дакончыўшы сваю прамову. Сышоў з трыбуны са словамі: «Прашу прабачэння, Высокі сейм, за тое, што заняў вашу ўвагу праблемамі асяроддзя, інтарэсы якога я прадстаўляю, а якія вам здаліся нявартымі, каб выслухаць». Сорак пяць гадоў існавання ПНР. Ніхто ніколі не гаварыў аб гэтых справах. Людзі, якія сядзяць сёння ў сейме, — большасць з апазіцыі, самі добра ведаюць, што гэта значыць, калі не даваць чалавеку голасу. І яны пашкадавалі 15 мінут чалавеку, каб ён мог сказаць тое, што яму набалела на сэрцы.

— Яны не часу пашкадавалі — ім не падабаецца тэма...

— Але ж гэта страшна! Бо так паступалі і з Тарашкевічам перад вайной...

Можа, варта адзначыць яшчэ і тое, што мы на працягу многіх гадоў дамагаліся, каб БГКТ належала не да міністэрства ўнутраных спраў, а падлягала міністэрству культуры. І вось таварыства знайшлося пад апекай міністэрства культуры. Была ў нас сустрэча з віцэ-міністрам Стэфанам Старчэўскім. На ёй многа добрых слоў казалі пра свабоду, роўнасць, аднолькавыя магчымасці для ўсіх грамадзян Польшчы. Але пры гэтым былі сказаны і словы, якія ёсць вялікай пагрозай для існавання беларускага нацыянальнага руху ў Польшчы.

— У чым гэта заключаецца?

— А заключаецца ў тым, што намеснік міністра заявіў: міністэрства ўвогуле не дасць грошай на штаты. Карацей, цяпер датацыі з дзяржаўнага бюджэту на сваю дзейнасць не атрымаем. А мы гэтых штатных адзінак мелі 20. Нават не ўяўляю сабе, як можа дзейнічаць такая арганізацыя без сакратаркі, бухгалтара, вадзіцеля. Скажам, мы можам дзейнічаць грамадска — хаця таксама дзейнасць намнога аслабіцца, але без гэтых людзей абсалютна не ўяўляю сабе работу БГКТ.

— Якія ж матывы такіх адносін да вас?

— А матывы простыя: усе грамадскія арганізацыі ў Польшчы пераходзяць на самаразлік і самафінансаванне і дзяржава ў аніякай сітуацыі не будзе іх фінансаваць. Аднолькавая трактоўка ўсіх арганізацый — і польскіх, і не польскіх. Выступаючы, я падкрэсліў, што Польшча мае па-за межамі 12 мільёнаў сваіх сыноў і дачок, і калі яна хоча, каб тыя дзяржавы, у якіх яны знаходзяцца, мелі параўнаўча добрыя варункі, магчымасць развіваць сваю нацыянальную культуру, захоўваць мову, то Польшча мусіць дбаць пра тое, ка[illegible] нацыянальныя меншасці, якія жывуц[illegible]ае тэрыторыі, мелі гэтыя элементар[illegible]ія варункі.

Другая пагроза заключаецца ў тым, што міністэрства культуры заявіла нам, што не дасць грошай на ўтрыманне будынкаў, якія мы маем: Галоўнае праўленне ў Беластоку, аддзел у Варшаве, аддзел у Гданьску[illegible]зел у Бельску-Падляскім і аддзел у [illegible]наўцы. Гэта многа будынкаў. Толькі за будынак Галоўнага праўлення БГКТ у 1990 годзе трэба плаціць, падобна, 500 тысяч злотых у месяц. Калі не будзе такіх грошай на аплату, то мы не будзем у стане плаціць гэтыя паўмільёна ў месяц — 6 мільёнаў у год! — то прыйдзе секвестратар і нам закрые будынак.

— Я не чуў, каб польскія таварыствы ў нас плацілі такія падаткі...

— Я толькі ведаю, што палякі моцна актывізуюцца ў Савецкім Саюзе, галоўным чынам у Літве, на Украіне і ў Беларусі. І гэта момант для нас радасны. Я і сам калісьці гаварыў, калі існавала БГКТ у Польшчы, але не было ніякага таварыства палякаў у Беларусі, што такія варункі павінны быць створаны... Тым больш, што для польскіх арганізацый у Савецкім Саюзе будзе намнога большай дапамога з боку Польшчы, чым для беларусаў у Беласточчыне — з боку Беларусі. І далейшая пагроза, нават можа найбольш страшная, заключаецца ў тым, што быць можа ўвогуле не будзе грошай на выдаванне «Нівы». Тое, чым мы ганарыліся, і чым ганарылася па сутнасці і Польшча, можа быць страчана. Нацыянальныя меншасці, адносілася гэта да беларусаў, украінцаў, літоўцаў і яўрэяў, мелі магчымасць выдаваць свае органы. Цяпер такую магчымасць яны могуць ужо страціць. Арганізацыя, якая нас фінансавала, ад нас ужо адмовілася.

На будаўніцтва музея ў Гайнаўцы дзяржава дагэтуль давала толькі выпадковыя сумы. Атрымалі мы агулам, можа, некалькі дзесяткаў мільёнаў злотых. Гэта дробязь. У пераліку на сённяшні стан пабудова будзе каштаваць 1 мільярд 300 мільёнаў злотых. Мы ўжо завінаваціліся будаўнікам. Пагроза вельмі сур'ёзная.

— Скажыце тады, якія магчымасці выканаць тыя планы, што былі намечаны на апошнім пасяджэнні БГКТ?

— Быць можа, гэта наіўна, але мы верым, што польская дзяржава не пакіне нас без дапамогі. Мы верым, што разумны сэнс возьме перавагу, што варункі нашай дзейнасці цяпер не будуць горшыя за тыя, у якіх мы дзейнічалі на працягу 30 гадоў. Хіба што дзяржава будзе зацікаўлена, каб адпіхнуць ад сябе нацыянальныя меншасці.

Яшчэ адна акалічнасць. Мы цяпер жывём у атмасферы моцна ўзрастаючых, гаворачы далікатна, польскіх нацыянальных пачуццяў і пачуццяў рэлігійных каталіцкіх. Тым цяжэй жыць і дзейнічаць іншародцам. Тым, хто мае іншую нацыянальнасць, і тым, хто мае іншую рэлігію. І мы гэта адчуваем. На жаль, ёсць многа праяў, якія сведчаць аб нецярантнасці.

— Выходзіць, што Польшча, якой правілі камуністы, давала вам магчымасць нацыянальна-культурнага развіцця. Польшча, якой кіруе былая апазіцыя і якая на словах гарантуе большую дэмакратыю, чым камуністы, адбірае апошні акраец хлеба?

— Ну, я можа так востра не паставіў бы пытанне, але ў кожным выпадку мы маем дачыненне з сітуацыяй, якая значна пагоршылася.

— У беларускім асяроддзі ў Польшчы з'явіліся новыя грамадскія плыні: таварыства «Грамады», БАС, вы прапануеце стварыць Беларускую партыю. Растлумачце, што ў вас адбываецца?

— Несумненна, у беларусаў даўно была настальгія па плюралізму, поўнай свабодзе. Сёння якраз стварыліся варункі, у якіх аб гэтым можна гаварыць больш смела. Тое, што было нібы схавана, цяпер праяўляецца. Беларускі грамадскі камітэт «Грамада» гэта і ёсць партыя. Але назва такая таму, што сёння ў беларускім грамадстве існуе скептыцызм, недавер да партыі, незалежна ад таго, які яна мае характар. Крытыцызм да партый увогуле. Калі ёсць у назове слова партыя, гэта выклікае крытыцызм, недавер.

БГКТ, на маю думку, павінна застацца як бы пазапартыйнай арганізацыяй. І быць толькі нацыянальна-культурнай, а не партыйнай арганізацыяй. Я асабіста не меў бы нічога супраць, каб узнікла партыя тыпу хрысціянскага. Усё ж такі многа людзей веруючых у нас.

У кожным выпадку, думаю, што гэтыя арганізацыі патрэбны, каб упэўніцца ў сваёй сіле, у сваіх магчымасцях і ў сваіх мэтах. І таму няхай палітычныя арганізацыі ўзнікаюць. Я асабіста быў бы задаволены, каб арганізавалася Беларуская партыя, або Беларуская платформа роўнасці, хай яна так і называецца — БПР.

Наконт «Грамады». Для мяне гэта партыя няясная. Яны нічога не апублікавалі накшталт статута, праграмнага дакумента. Ёсць толькі пастулаты, якія ў значнай ступені сыходзяцца з пастулатамі БГКТ.

— Ці не спроба гэта перахапіць ініцыятыву і кіраўніцтва ад БГКТ нацыянальна-культурным рухам?

— Калі б нешта такое здарылася, то было б гэта не на карысць беларусам. Ёсць вялікае поле дзейнасці побач, а не перашкаджаць сабе ўзаемна. Было б вялікай драмай, калі б сталася ў нашым руху тое, што было перад вайной. Вядомы даследчык Дамашэўскі прывёў у сваёй кнізе выраз з дакумента міністэрства ўнутраных спраў Польшчы перад вайной. Гэты дакумент больш-менш гучыць так: хаос, непаразуменні і канфлікты былі ва ўсіх рухах меншасцей, але такога хаосу, такой нянавісці, такога палівання ўзаемна граззю, як у беларусаў, не было сярод аніводнай іншай нацыянальнасці. І было б страшэннай рэччу, каб мы, у параўнанні з тым даваенным перыядам, не паразумнелі. Яшчэ віленскі ваявода калісьці сказаў аб беларусах: грызуцца паміж сабою, — для нас не грозныя.

— У гэтым іх слабасць...

— У тым-та і справа! Трэба мяняць нядобрую традыцыю. Напэўна, гэта будзе нялёгка, але ўжо вяртацца да «адзінай і любімай» партыі няма найменшага сэнсу. Нашы грамадоўцы гавораць: нас мала, і таму патрэбна адна партыя. У нас павінна быць усё тое, што ёсць у вялікіх грамадствах і вялікіх народаў.

— Наколькі ведаюць цяпер на Беласточчыне пра Беларускае таварыства «Радзіма» і як яго дзейнасць спрыяе ў вашых справах?

— Мы даводзім інфармацыю да ўсіх — паведамляем у «Ніве», гаворым на сходах, у школах. І, несумненна, тое, што робіць для нас «Радзіма», усюды ўспрымаецца вельмі добразычліва. Нашы невялікія групы дзяцей прыязджаюць у Беларусь, нашы пенсіянеры адпачываюць тут, нашы дзеячы мастацкага руху прыязджаюць сюды на курсы — усё гэта мае свой рэзананс.

Яшчэ адна справа. Да гэтага, калі беларусы прыязджалі ў Беларусь, дзе яны маюць і сваякоў, і знаёмых, то, вяртаючыся на Беласточчыну, гаварылі: што вы тут намагаецеся ўвесці беларускую культуру, беларускую мову, калі гэтага нічога няма ў Савецкай Беларусі, калі абсалютна нідзе не пачуеш слова беларускага, калі ніхто аб гэтых праблемах не гаворыць. Цяпер сітуацыя мяняецца. Праўда, гарадская вуліца яшчэ на беларускай мове не загаварыла, але прэса ўжо гаворыць. Працэс гэты ўзбуджае ў нас вялікую надзею.

**Гутарку вёў В. КРАСЛАЎСКІ.**

## *КУДА ИДЕТ СОЦИАЛИСТИЧЕСКИЙ МИР*

# ТВОРЧЕСКОЕ ОБНОВЛЕНИЕ ИЛИ РАЗВАЛ?

«Перемены, перемены... мы требуем перемен», — поется в советской песне, рожденной перестройкой. Не знаю, знакома ли была эта песня демонстрантам в ГДР, Болгарии, Чехословакии, Румынии. Но идея обновления в странах социализма властно овладела быстро политизирующимися массами, которые потребовали отказа от идеологического самодовольства, решения насущных социально-экономических и политических проблем, расширения многообразных свобод. Последние события в странах Восточной Европы еще раз подтвердили, что современный социализм переживает кризис, может быть, самый драматический за всю историю своего существования. Перестройка в СССР, стремительные политические процессы в Румынии, Венгрии и Польше, ГДР, Болгарии и Чехословакии, экономические реформы в Китае, настороженное, даже враждебное отношение к ветрам идеологических и политических свобод ортодоксальных руководителей ряда других стран социализма — это только отдельные краски того многоцветного мира, который еще недавно выглядел серым и однообразным.

Куда же идет социалистический мир? Что в нем происходит: творческое обновление или развал, подтверждающий в великом историческом споре XIX—XX веков окончательную победу буржуазного экономического и политического либерализма? Одни участники бурных дискуссий говорят не столько о кризисе прежней сталинской модели социализма, сколько об экономическом, политическом и нравственном крахе нового строя. Другие, наоборот, надеются на очищение социализма, преодоление его деформаций на основе избавления от вульгаризации и искажения сути нового строя.

Суть перестройки — в деэтатизации, ибо сложный процесс социализации в странах социализма был сведен к почти тотальному огосударствлению всех общественных отношений. Социализация же средств производства была подменена национализацией: монополия государственной собственности не исчезла, а лишь смягчилась из-за допуска в отдельных странах кооперативной или даже частной собственности. По сути, возник государственный, распределенческий социализм, подчас насаждаемый принудительными методами. Самое удивительное в такой тоталитарной системе — слияние экономики и политики, утрата каждой из них той автономии, которая позволила и позволяет капитализму получить непрерывный источник своего прогресса. Утвердились неэффективные и антигуманные механизмы общественного развития, основанные на отчуждении людей труда от собственности и власти. Зайдя неизбежно в тупик, социалистические страны встали перед выбором: идти по пути частичного допуска частной собственности и денационализации, либо продолжить дальнейшее обобществление. Есть и попытки совмещения этих путей.

И все же думаю, что ни одна из стран социализма не вернется на прежний, буржуазный путь развития. Этого не произойдет хотя бы потому, что социализация осуществляется и внутри капиталистических обществ благодаря постепенному включению большинства населения в управление, расширению прав и свобод, росту социальной защищенности и справедливости, гуманизации общественной жизни. С другой стороны, радикальные реформы общественных структур, осуществляемые в большинстве стран социализма, создают основы для преодоления былого противопоставления капитализма и социализма, для поисков взаимопонимания двух систем.

Поиски новых путей развития, где осуществляются радикальные реформы, происходят сейчас в рамках следующей альтернативы: товарный, рыночный, демократический или внеэкономический, административно - командный, казарменный социализм.

Страны, объявившие о радикальном обновлении, стремятся к многоукладной экономике (государственной, кооперативной, частной и смешанной), рыночным регуляторам с использованием индикативного планирования, конкуренции, открытости мирохозяйственным влияниям, включению в международное разделение труда, к созданию гражданского общества с многообразием интересов и правового государства, политическому плюрализму вплоть до признания оппозиционной многопартийности, к духовной, в том числе идеологической свободе.

К важнейшим проблемам, вызываемым стремлением к демократическому, рыночному социализму, относятся: усиление социальной дифференциации населения и рост противоречий, обострение политической нестабильности, непредсказуемость ряда общественных процессов, возникновение безработицы и т. д.

Волей народов процесс реформ решительно охватывает большинство социалистических стран. Идет наступление на пирамидальную бюрократическую структуру власти, происходит отказ от подавления оппозиционных сил, избавление от всевластия правящих партий, информационной и культурной монополии, расширяется свобода общения с Западом. Это, в частности, показывает опыт ГДР, НРБ и ЧССР последних месяцев 1989 года.

Есть и страны, которые в своих поисках пытаются избежать крайностей административно-казарменной и рыночной моделей и соединить преимущества (явные и иллюзорные) обеих. Отсюда многие противоречия этих поисков: постепенность этапов, целеустремленность сочетаются с задержками в развитии и политической нерешительностью. Введение экономических, рыночных механизмов на определенном уровне (аренда, семейный подряд, кооперация, акционерные формы собственности и т. д.) происходит при сохранении командной экономики с огромным административным аппаратом, не отказывающимся от своих функций. В то же время стремление к духовным свободам и многообразию соседствует с противодействием политическому плюрализму. Однако желание выглядеть цивилизованным обществом с полным набором свобод и прав членов гражданского общества, торжеством закона лимитируется страхом перед ростом оппозиционных сил, боязнью идти на диалог с ними.

Стремление реформаторских сил в странах социализма сблизиться с социал-демократией и на этой основе избавиться от удушающих все живое догм вызывает упреки (не только внутри стран-реформаторов, но и в странах, не желающих идти по пути радикальных реформ) в классовом предательстве, в мелкобуржуазном, праворевизионистском перерождении. К сожалению, нельзя утверждать, что победа реформаторов над догматическими приверженцами обветшалых общественных структур, яростными сторонниками идеологической нетерпимости предрешена. Она может быть обеспечена реальным выходом социализма из кризиса, прежде всего ощутимым улучшением условий жизни, а не только гласностью, демократизацией. Вкус к правам, к благам свободы формируется не только благодаря избавлению от идеологических конвоиров. Он формируется и закрепляется в массах, если сопровождается достатком, ростом благосостояния. Здесь критическая точка перестройки, которая определит ее победу или поражение.

**Виктор КИСЕЛЕВ,**
**кандидат философских наук.**
**(АПН).**

## *ПО РОДНОЙ СТРАНЕ*

# ВУЛКАНЫ КАМЧАТКI

Среди более трехсот потухших и двадцати девяти действующих вулканов Камчатки выделяется своей величавой красотой Ключевская группа, состоящая из 12 вулканов, из них четыре: Ключевская сопка, Безымянный, Плоский Толбачик, Ужковский — активные. На их долю приходится около трети всех извержений, происшедших на Камчатке и Курильских островах.

Наиболее часто напоминает о себе вулкан Ключевская сопка, возраст которого приближается к 8 тысячам лет. Это не только самый активный, но и самый высокий вулкан в Евразии — высота его достигает 4 750 метров. За 270 лет произошло более 50 сильных извержений Ключевского. Активизировался он и в последнее время. Взрывы в его кратерах происходили в 1983 и 1984 годах, 1987 и 1988 годах.

Изучением этого и других вулканов на протяжении полувека занимаются ученые самого крупного в мире института вулканологии Дальневосточного отделения Академии наук СССР. Непосредственное же наблюдение за вулканами осуществляется на специальной станции, расположенной у подножия вулкана в поселке Ключи. Это первая в СССР вулканологическая станция, основанная еще в 1935 году (сейчас в стране создана целая сеть подобных автоматических телеметрических станций). Деятельность небольшой станции-лаборатории охватывает широкий круг проблем: от выявления предвестников вулканических извержений до выяснения механизмов физико-химических процессов, происходящих в недрах Земли. В арсенале средств вулканологов — аэровизуальные и аэросъемочные методы, которые совместно с сейсмическими и геодезическими помогают изучению важнейших событий в жизни вулканов. В 1975 году по итогам многолетних сейсмических наблюдений было предсказано извержение вулкана Плоский Толбачик (по мнению ученых, крупнейшее извержение нашего столетия), а через восемь лет (в 1983 году) снова, в соответствии с прогнозом, взорвался Ключевский.

Активный действующий вулкан — это всегда уникальная возможность наблюдать живые процессы природы, делать важные открытия. Например, Толбачинское извержение способствовало образованию в его районе многих полезных ископаемых — геологи насчитали более 50 минералов, включая самородное золото. Всего же будущий вулкан за полтора года выбросил более 2 куб. километров изверженных продуктов общим весом более 3 миллиардов тонн.





**Круглый год принимает теперь отдыхающих туристская база «Радуга», что на Могилевщине. В дополнение к летнему, хорошо оборудованному комплексу на 160 мест, здесь построен зимний, где могут отдыхать одновременно сто человек. В распоряжении туристов — одноместные и двухместные номера со всеми удобствами. Работают киноклуб, библиотека, бильярдная, комнаты для настольных игр, лыжная база, пункт проката коньков, санок, спортивной одежды. В программе отдыха автобусные экскурсии в Минск и Хатынь, в Брестскую крепость-герой, в Могилев, в колхоз «Рассвет» имени К. Орловского, по памятным и историческим местам Могилевской области, пешие походы по партизанским тропам. Туристская база «Радуга» продолжает расширяться. Сейчас здесь строится крупный спортивный комплекс с плавательным бассейном и баней-сауной.**

**НА СНИМКАХ: на турбазе «Радуга»; «мороз и солнце, день чудесный»...**

**Фото С. ЖЕЛУДОВИЧА.**

## ПРЭМ'ЕРА СПЕКТАКЛЯ

## «ГАЛАСЫ ТРАВЫ»

На сцэне Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача прэм'ера. Новы спектакль «Галасы травы» створаны паводле аповесці вядомага амерыканскага пісьменніка Трумэна Капатэ. Галоўны герой спектакля — адзінаццацігадовы хлопчык Колін, сутыкаючыся з светам дарослых, страчвае сваю веру ў дабро і справядлівасць. Праходзячы праз выпрабаванні, ён мужнее душой і адначасова губляе чысціню душы, непасрэднасць успрыняцця свету. У аснове спектакля — канфлікт прыгожай мары і шэрай жыццёвай прозы.

НА ЗДЫМКАХ: сцэны са спектакля: у ролях Долі і суддзі Кул — заслужаныя артысты БССР Рыма МАЛЕНЧАНКА і Віктар ЛЕБЯДЗЕЎ.

Фота У. ВІТЧАНКІ.





## ВЫ ХАЦЕЛІ СУСТРЭЦЦА

# ШТО СКАЖАШ ЛЮДЗЯМ

«Артыстам, пісьменнікам, вучоным павінен кіраваць такі неадольны імпульс да творчасці, што нават калі б іх работа не аплачвалася, яны самі былі б гатовы плаціць за тое, каб мець магчымасць ёю займацца. Ратуй нас, божа, ад першых раманаў, напісаных толькі таму, што малады чалавек хоча заваяваць званне пісьменніка, а не таму, што ён мае нешта такое, аб чым хоча сказаць». Гэта выказванне «бацькі» кібернеткі Н. Вінера тычыцца, мне здаецца, прадстаўнікоў усіх творчых прафесій. Кампазітару Віктару Войцiку ёсць што сказаць людзям, інакш ён і не стаў бы кампазітарам.

**КАРОТКАЯ БІЯГРАФІЧНАЯ І ТВОРЧАЯ ДАВЕДКА.**

**Віктар Войцік нарадзіўся ў 1947 годзе. Скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю па класу кампазіцыі (1972 год) і асістэнтуру-стажыроўку Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі пад кіраўніцтвам прафесара А. Лемана (1975 год). Член Саюза кампазітараў з 1974 года. Асноўныя творы: дзве сімфоніі, дзве сюіты для сімфанічнага аркестра, канцэрт для кларнета і камернага аркестра, араторыі «Памяць Хатыні», «Дзень Радзімы», кантаты «Казацкія песні», «Як камар хадзіў сватацца», Канцэрт і «Парафраз» для камернага аркестра, струнны квартэт, саната для двух цымбалаў, саната для віяланчэлі і фартэпіяна, п'есы, музыка да драматычных спектакляў.**

Як бачым, ён напісаў многа музыкі ў розных жанрах. Якая яна, музыка Віктара Войціка? Па-першае, яе цікава слухаць, таму што яна заўсёды нечаканая, па-другое, музыка В. Войціка глыбока нацыянальная. Праяўляецца гэта не ў прамым цытаванні беларускіх народных мелодый, а ў нейкім асаблівым спалучэнні беларускага музычнага фальклору з сучаснымі прыёмамі кампазітарскай тэхнікі, што дае слухачу магчымасць зазірнуць у нябачную глыбіню нацыянальнай душы, светаўспрымання. Я прыгадваю зараз яго Санату для двух цымбалаў і магу сцвярджаць: гэта адзін з рэдкіх, яркіх, можна сказаць, эталонных узораў працы сучаснага кампазітара з фальклорам.

З чаго пачаўся шлях В. Войціка ў музыку? Пытанне паўстае натуральна, калі мы хочам даведацца аб [illegible] атмасферы, у якой выс[illegible] будучы талент.

— У мяне вельмі жывыя ўспаміны аб першых маіх кроках у музыку. Калі я быў малы, часта заставаўся дома адзін. Бацькі хадзілі на працу і зачынялі мяне на [illegible] дзень у хаце. І я слухаў радыё. Усе песні, што гучалі тады, я ведаў на памяць. Час быў цяжкі. У дарослых асаблівых забаў не было. Тады дзеці забаўлялі і сябе, і дарослых. Памятаю, як усім было смешна, калі я, 5-гадовы хлапчук, станавіўся на табурэт пасярод пакоя і старанна выводзіў песню: «На двары дожджык, а ў хаце лужа, разгневалася жонка на мужа». Я адчуваў сябе артыстам.

Ну, а калі казаць сур'ёзна, да музыкі мяне прыахвоціў мой першы настаўнік па баяну Я. Петрашэвіч. Заняткі ў яго класе праходзілі вельмі цікава. Акрамя баяна, я навучыўся іграць на бубне, балалайцы. А калі ў школе стварыўся духавы аркестр, я пайшоў туды займацца і стаў іграць яшчэ і на трубе. Гэта мне спатрэбілася пазней, калі я служыў у арміі. Потым было гродзенскае музычнае вучылішча. У час вучобы я ўжо іграў на балалайцы ў вядомым ансамблі песні і танца «Нёман». Тут я пачаў патроху пісаць музыку сам.

*— Вы скончылі вучылішча па класу баяна, а ў кансерваторыю паступілі ў клас кампазіцыі. Як гэта атрымалася?*

— На кампазіцыю я паступіў нечакана для сябе. На выпускных экзаменах у вучылішчы старшынёй камісіі была кампазітар Эдзі Тырманд. Ёй нехта падказаў, што ў нас ёсць выпускнікі, якія пішуць музыку. Яна папрасіла нас паказаць свае творы і, паслухаўшы іх, параіла вучыцца кампазіцыі далей.

Пасля гэтага я прыехаў у Мінск і аддаў дакументы ў кансерваторыю на аддзяленне ігры на баяне. У вестыбюлі нечакана сустрэлася Тырманд. «Вось добра, што вы прыехалі, я зараз пакажу вас нашым прафесарам», — сказала яна. — Але, на жаль, экзамены на падрыхтоўчае аддзяленне закончыліся. Ну, нічога. Хай вас паслухаюць».

Я ўпершыню ўбачыў тады Аладава, Багатырова, Падкавырава. Сыгралі мы свае творы. Сталі чакаць: што ж нам скажуць? Нарэшце выходзіць Багатыроў і кажа:

— Добра, хлопцы, вы залічаны. — А што нам зараз рабіць? — спыталі мы.

— А нічога, едзьце дадому і чакайце выкліку.

*— Пасля Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі вы працягвалі вучобу ў Маскве...*

— Так, займаўся ў выдатнага прафесара, вельмі чулага і адукаванага педагога А. Лемана. Зараз ён загадвае кафедрай кампазіцыі Маскоўскай кансерваторыі.

*— І вось закончылі вучобу і засталіся, як кажуць, сам-насам са сваёй прафесіяй. Якія творы з'явіліся ў гэты час?*

— Свой першы твор, за які мне і зараз не сорамна, я напісаў на трэцім курсе кансерваторыі. Гэта п'еса для цымбалаў-сола «Акварэль». Я ўпершыню тады звярнуўся да цымбалаў.

*— Пазней з'явіліся вашы новыя цымбальныя творы — «Сюіта ў старадаўнім стылі», «Саната для двух цымбалаў», якія ўвайшлі ў рэпертуар амаль усіх беларускіх выканаўцаў...*

— Так, з цымбаламі я не расстаюся. Напісаў «Дзіцячую сюіту» паводле казкі «Залаты ключык», сшытак эцюдаў для цымбалаў. Гэты зборнік выйшаў у выдавецтве «Беларусь». Я ўжо добра ведаю прыёмы ігры на цымбалах, куды пойдзе якая рука, што лягчэй, а што складаней выконваць. Узяўся за канцэрт для цымбалаў. Зараз працую над ім.

*— Скажыце, ці лёгка вы пішаце музыку?*

— Увогуле не. У мяне ёсць, праўда, творы, якія напісаліся лёгка, і яны, дарэчы, лёгка ўспрымаюцца. Гэта, напрыклад, творы для дзяцей. Для іх жа трэба пісаць яркую, вобразную музыку, каб лягчэй было зразумець.

*— Кампазітар, як кожны творчы чалавек, залежыць ад натхнення. А яно не такі ўжо часты госць. Чым вы займаецеся, калі няма натхнення?*

— Калі я ведаю, што сказаць, пішу хутка. А калі пэўная работа не ідзе месяц, два ці болей, бяруся за музыку да спектакляў, за песні. Яны не гучаць па радыё, але я адчуваю, што яны патрэбны і мне самому, і слухачам. Да мяне звяртаюцца самадзейныя аўтары і выканаўцы за кансультацыяй, з' просьбай напісаць нейкі твор для самадзейнага калектыву. Я напісаў дзве п'есы для ансамбля «Капыльскія дудары». Кампазітару вельмі карысна спрабаваць сябе ў розных жанрах.

З вялікай цікавасцю і задавальненнем я працую зараз над зборнікам п'ес для беларускіх народных інструментаў: дудкі, жалейкі, ліры, гармоніка, цымбалаў. Мы працуем разам з музыкантам-рэстаўратарам Уладзімірам Пузынем. Гэты зборнік будзе называцца «Лірнік». Ён прызначаны спецыяльна для дзетак, каб яны маглі вучыцца іграць на нацыянальных інструментах.

*— Раскажыце, калі ласка, пра вашы буйныя творы, якія атрымалі прызнанне не толькі ў Беларусі.*

— Араторыя «Памяць Хатыні» на вершы Тармолы і Бураўкіна заняла першае месца на Усесаюзным конкурсе маладых кампазітараў. Першае яе выкананне адбылося ў Ленінградзе, у Вялікай зале Ленінградскай філармоніі. Гэта было для мяне вельмі пачэсна. І выканаўцы добра справіліся. Яшчэ адзін твор, на які прыхільна адгукнуліся слухачы, сюіта для сімфанічнага аркестра «Забавы», яна напісана на фальклорным матэрыяле.

*— Вы неяк сказалі, што ў сваіх творах пазбягаеце залішняй эмацыянальнасці. Ці значыць гэта, што вы падпарадкоўваецеся больш розуму, чым пачуццям?*

— Ні ў якім разе! Але ў мяне ёсць творы канструктывісцкага паходжання. Напрыклад, канцэрт для камернага аркестра. Гэта зусім не значыць, што я не ўкладваў у яго і сэнс, і думкі, і эмацыянальнасць. Я за тое, каб музыка заўсёды мела ясную канструкцыю. Не люблю слухаць творы, у якіх я не разумею формы. Мне здаецца тады, што я трапіў у глухі лес, па якім прайшла бура, паваліла дрэвы, і я не магу знайсці сцежку, каб выбрацца на дарогу. Трэба, каб форма была зразумелай, тады яснай стане і ідэя твора.

*— Як вы ставіцеся да крытыкі ў адрас вашай музыкі?*

— Дагэтуль стараўся пазбягаць канфліктаў з крытыкамі, і мне гэта амаль што ўдавалася. Калі кампазітар доўгі час працуе над творам, ведае кожную ноту, ён сам больш бачыць, што яму ўдалося, а што — не. З майго вопыту: прагучаў Канцэрт для кларнета з камерным аркестрам, адзін з апошніх буйных твораў. Здавалася б, я быў у ім упэўнены на ўсе сто працэнтаў. А прагучаў ён, і я выйшаў з залы засмучаны, нават не развітаўся з выдатным выканаўцам — Генадзем Забарам. Пайшоў я дамоў, як у ваду апушчаны. Потым цэлы год не мог паверыць, што мяне спасцігла няўдача. Ну, нічога. Мяне тады ніхто вельмі не ўпікаў і ніхто надта не хваліў. Я зразумеў: крытыкаваць не будуць, бо паважаюць за ранейшыя творы, а хваліць няма за што. Аўтар — сам сабе строгі суддзя. Калі чалавек сумленны і сумлення ставіцца да сваёй працы, то будзе адпаведна ставіцца і да крытыкі.

*— У нашага выдатнага паэта Максіма Танка ёсць такія радкі: «І радасць — ніякая радасць, а горыч, і песня — ніякая песня, а скарга, і страва — ніякая страва, а камень... калі ты на свеце ўсім гэтым не маеш з кім падзяліцца». Мне здаецца, сэнс творчасці вось у гэтым слове — падзяліцца.*

— Згодны. Нікому не хочацца рабіць марную справу. Хочацца, каб музыка была патрэбна людзям. Я ведаю, бачу на творчых сустрэчах са слухачамі, што яны з вялікай павагай ставяцца да таго, што для іх напісаў музыку прафесіянальны кампазітар. Для мяне вялікая радасць пісаць п'есы для зборніка «Лірнік». Па ім будзе вучыцца не адно пакаленне...

**Гутарку вяла Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ.**

*ІМЁНЫ, ВЯДОМЫЯ ЎСІМ*

# «ІГРАЦЬ ШАСТАКОВІЧА — ГЭТА ВЯЛІКІ ГОНАР»

ВЫДАТНЫ савецкі віяланчэліст Мсціслаў Растраповіч, які шаснаццаць гадоў назад пакінуў родную зямлю і быў пазбаўлены грамадзянства СССР, у лютым наведае Маскву і Ленінград, дзе на чале Вашыгтонскага сімфанічнага аркестра дасць некалькі канцэртаў. Што ж рыхтуецца выканаць на Радзіме пасля такой доўгай адсутнасці праслаўлены маэстра?

— Перш за ўсё творы Дзмітрыя Шастаковіча, — гаворыць Растраповіч. І ўдакладняе: — Пятнаццатую сімфонію, лебядзіную песню Майстра.

У нас яшчэ ніколі не гучалі партытуры Шастаковіча ў інтэрпрэтацыі Растраповіча-дырыжора. Калі ён пакідаў Радзіму, яго дырыжорская дзейнасць толькі пачыналася. Але масквічы помняць, якім багаццем мастацкіх адкрыццяў ззялі яго прачытанні оперы «Яўгеній Анегін» у Вялікім тэатры ці Шостай сімфоніі Чайкоўскага ў той вечар 10 мая 1974 года ў Вялікай зале кансерваторыі, калі Масква развіталася са сваім вялікім суайчыннікам.

Ёсць сведчанні, што Шастаковіч гаварыў тады, не стрымліваючы слёз: «На каго ж вы мяне кідаеце паміраць, на чые рукі?» Бо ў тыя гады наўрад ці хто з вядомых музыкантаў стаяў так блізка да Шастаковіча, як Растраповіч і яго жонка спявачка Галіна Вішнеўская. Пасля іх ад'езду з Расіі прайшло крыху больш за год, і Шастаковіча не стала.

Блізкасць вялікіх музыкантаў пачыналася гадоў 35-40 назад, калі Маскоўская кансерваторыя яшчэ, можна сказаць, гула ад сходаў і калідорных шэптаў аб «касмапалітах» і «фармалістах-какафаністах», засвойваючы змрочны ўрок разгромнай Пастановы ЦК КПСС 1948 года аб музыцы. Растраповіч ужо на самым пачатку шляху магутнасцю свайго артыстызму прыцягваў да сябе такіх выдатных музыкантаў, як Пракоф'еў і Шастаковіч. Менавіта ў цесным кантакце з імі пачаў ён рэформу віяланчэльнага мастацтва XX стагоддзя, якая ператварыла віяланчэль у «фаварытны» канцэртны інструмент з багатым рэпертуарам.

Замалада нёс у сабе Растраповіч непахіснасць волі, унутраную незалежнасць. Яна жывіла яго творчае і чалавечае крэда. Яна дыктавала яму і дружбу з апальным хворым Пракоф'евым, і абарону Салжаніцына, і падтрымку Шастаковіча ў самыя цяжкія гады яго жыцця. Такімі гадамі сталі для кампазітара 60-я, калі з пачаткам ганенняў на Трынаццатую сімфонію «Бабін Яр» (на вершы Яўгенія Еўтушэнкі) знікалі апошнія ілюзіі хрушчоўскай «адлігі». Зноў паднімалі галовы ворагі Шастаковіча, ствараючы вакол яго атмасферу падазронасці і недаверу. Пад падазрэннем быў сам саюз кампазітара з мяцежнай музай маладога Еўтушэнкі. Для новай брэжнеўскай бюракратыі вакальна-сімфанічная паэма «Пакаранне смерцю Сцяпана Разіна» Шастаковіча-Еўтушэнкі, якая прагучала адразу пасля зняцця Хрушчова (яе прэм'ера ў Маскве адбылася ў снежні 1964-га), магла здацца занадта дзёрзкай і небяспечнай метафарай.

Менавіта ў сярэдзіне 60-х гадоў дружба Шастаковіча і Растраповіча стала сур'ёзным фактарам кансалідацыі сіл музычнай інтэлігенцыі, усяго фронта супраціўлення «шасцідзесятнікаў». Не выпадкова ў 1966 годзе свой 60-гадовы юбілей Шастаковіч сустракаў прэм'ерай Другога канцэрта для віяланчэлі з аркестрам, прысвечанага Растраповічу. Гэты твор цачынаў той жа журботны шэраг высокіх развітальных твораў Майстра, з іх па-новаму «ціхімі» фіналамі, дзе кампазітар нібы пачынаў апошні спавядальны дыялог з вечнасцю.

У дні падрыхтоўкі прэм'еры мы сустрэліся з Мціславам Растраповічам для гутаркі аб асобе і творчасці Шастаковіча. У той час, зрэшты, Растраповіч і не мог гаварыць ні пра кога іншага. Як цяпер помню: мы сядзім з Мсціславам у яго рабочым холе, абабітым сіняй скурай, дзе на невялікім подыуме стаіць раяль. Я бачу тут толькі адзін партрэт — Дзмітрыя Шастаковіча. І чую словы пра яго:

— Невымерна ўскладняецца свет чалавека. І атрымлівае глыбіню неверагоднай сілы. Выявіць яе можа толькі вялікі пісьменнік ці музыкант. Шастаковіч — з пароды гэтых магутных. Мне заўсёды здавалася, што Шастаковіч ведае пра чалавека ўсё. З дзяцінства я палохаўся яго эрудыцыі. Ёсць пункт гледжання, што Шастаковіч адлюстроўвае ў музыцы антычалавечны, страшны, бяздушны пачатак, ўзнаўляючы трагічную праўду XX стагоддзя. Вас цікавіць мая думка? Я не бачу ў музыцы Шастаковіча «сіл зла». Я бачу проста сілу. Я бачу неверагодную сілу чалавечага характару. І ведаеце што? Мы дрэнна ведаем сябе. Мы дрэнна бачым ці не хочам бачыць сябе. А музыка Шастаковіча — гэта мы самі, наша не пазнанае да канца жыццё. У гэтай музыцы ўся велізная амплітуда нашага жыцця — ад глыбокіх расчараванняў і трагічных сутыкненняў да прасвятленняў і гордых надзей.

Так гаварыў Растраповіч 23 гады назад, і ў яго словах гучала новая праўда ў ацэнцы асобы і творчасці Шастаковіча, адчуваная па тым часе, поўная глыбокага падтэксту, і яшчэ: Растраповіч як бы прарочыў сваю дырыжорскую будучыню. Разбіраючы Канцэрт для віяланчэлі Шастаковіча, захапляючыся «недасягальным майстэрствам» творцы, ён гаварыў:

— Я заўсёды зайздросціў дырыжорам. Я заўсёды марыў аб віяланчэлі са ста струнамі. Але талент Шастаковіча пераадольвае недасканаласць інструмента. Іграючы гэтую музыку, я ўпершыню адчуваю сябе на музычным узроўні дырыжора. Шастаковіч надзяляе віяланчэль якасцю невіяланчэльнай сілы... Іграць Шастаковіча, быць сучаснікам Шастаковіча — гэта гонар, вялікі гонар!

Сёння мы ўпэўнена можам сказаць, што менавіта музыка Шастаковіча, нарэшце, «выштурхнула» Растраповіча за дырыжорскі пульт, таму што ў наступным годзе ён ужо ставіў у Вялікім свайго «Яўгенія Анегіна». Сімвалічная падрабязнасць: Шастаковіч у сваёй адзінай дырыжорскай спробе асмеліўся выступіць менавіта з Растраповічам. Яны выконвалі Першы канцэрт для віяланчэлі з аркестрам на фестывалі ў Горкім у лістападзе 1962-га.

Як вядома, у 1970 годзе Мсціслаў Растраповіч зрабіў рашаючы выбар, адаслаўшы сваё славутае «Адкрытае пісьмо» ў абарону Аляксандра Салжаніцына рэдактарам цэнтральных газет.

Хаця цяжкай і небяспечнай была для яго гэтая грамадзянская акцыя, рабіў ён яе з годнасцю вялікага музыканта. Абараняючы Салжаніцына, ён выступіў адначасова і ў абарону Шастаковіча і яго «рэпрэсіраваных» твораў.

Мінула чатырнаццаць гадоў з дня смерці Дзмітрыя Шастаковіча. І ўсе гэтыя гады не слабела духоўная ніць, якая злучыла некалі двух вялікіх рускіх музыкантаў. Калі на радзіме Шастаковіча яго «апальныя» сімфоніі не гучалі, Растраповіч, без усялякай надзеі на пахвалу суайчыннікаў, быў нястомным іх прапагандыстам на Захадзе. А нядаўна стаў выканаўцам ніколі раней не гучаўшага «Антыфармалістычнага райка» Шастаковіча, створанага ім яшчэ ў гады ганенняў на кампазітараў-«фармалістаў».

**Тамара ГРУМ-ГРЖЫМАЙЛА,**
**мастацтвазнаўца.**

АЎТАР АДКАЗВАЕ ЧЫТАЧУ

# ПЫТАННЕ ЗАСТАЕЦЦА АДКРЫТЫМ

Паважаная рэдакцыя! З вялікай цікавасцю прачытаў надрукаваны ў вашай газеце за 10 жніўня 1989 года артыкул Алены Яскевіч «Старабеларускія слоўнікі — помнікі лексікаграфічнай культуры XVI стагоддзя». З яго даведаўся пра невядомы мне факт. Як я зразумеў з артыкула, Іван Фёдараў — «славуты выхадзец з нашай старонкі» гэта значыць беларус. Між тым у Беларускай савецкай энцыклапедыі сказана, што ён быў дыяканам царквы Міколы Гастунскага ў Маскоўскім Крамлі і нічога не гаворыцца пра яго нацыянальнае паходжанне. Калі заснавальнік кнігадрукавання ў Расіі і на Украіне беларус, то чаму мы не маем права ганарыцца гэтым, чаму не ўшануем свайго вялікага земляка, замоўчваючы такі факт.

У сувязі з гэтым хочацца даведацца дадаткова пра жыццё першадрукара, а галоўнае — на падставе якога гістарычнага матэрыялу аўтар артыкула робіць вывад аб нацыянальнай прыналежнасці Івана Фёдарава. Магчыма, паважаная рэдакцыя падкажа, дзе можна прачытаць інфармацыю, якая цікавіць мяне.

З павагай

**В. КУЛАН.**

**Шаноўны В. Кулан, прабачце, не ведаю Вашага імя і імя па бацьку.**

**Пытанне аб магчымым беларускім паходжанні і нацыянальных арыентацыях Івана Фёдарава, прызнацца, у нашай навуцы сур'ёзна не вывучалася. Яго якраз пачалі ставіць рускія даследчыкі У. Лукомскі, Я. Неміроўскі і іншыя. Аб'ектыўных фактаў, на якіх спрабуюць вучоныя будаваць версію пра беларускае паходжанне І. Фёдарава, уласна, некалькі.**

Гэта вядомы радаводны герб Рагозаў «Шранява», якім падпісваўся І. Фёдараў, у прыватнасці, мы яго знаходзім на лісце да саксонскага курфюста Аўгуста (22.VII. 1583). Рагозы, па меншай меры да канца XVI стагоддзя, як сведчаць помнікі, «помещиками сидели» ў вярхоўях Дняпра, на землях Мсціслаўскага і Мінскага ваяводстваў. Гэта важкі, на думку У. Лукомскага, аргумент на карысць паходжання І. Фёдарава, як і яго паплечніка Пятра Мсціслаўца, відаць па ўсім, з усходняй Магілёўшчыны, калі, зразумела, выключыць набыццё шляхецкага звання ў час пажыццёвай дзейнасці (так званая адаптацыя).

На цікавыя факты натрапіла загадчыца аддзела інкунабулаў Ягелонскай бібліятэкі А. Левіцка-Камінська. У прамацыйнай кнізе Кракаўскага універсітэта за 1532 год аб навучанні Івана Фёдарава даюцца наступныя запісы: «Іван Фёдараў Масквіцін» і «Іван Фёдараў з Пяткавіц». Апошнія Я. Неміроўскі схільны атаясамліваць з Петкавічамі, якія сустракаюцца ў многіх вёсках Беларусі. Гэтыя запісы лягчэй за ўсё ўзгадніць між сабой, калі лічыць паходжанне І. Фёдарава з Мсціслаўшчыны, гэтага беларуска-рускага пагранічча, лёс якога пераменліва складваўся, асабліва пасля Лівонскай вайны.

І яшчэ на адзін знамянальны факт указвае У. Лукомскі. У гербе на кнізе Астрожскай «Азбукі» І. Фёдарава за 1578 год побач з выявай Георгія Пабеданосца ў верхнім правым полі змешчан коннік з узнятай шабляй. «Гэта, — піша даследчык, — герб «Пагонь» (ад польскага «Pogoń» — «Віцязь»), які ў свой час быў дзяржаўным гербам Вялікага княства Літоўскага. Яго ўводзілі ў геральдычныя кампазіцыі магнаты, каб падкрэсліць сваё паходжанне ад вялікакняскага роду».

Ускосна беларускія сімпатыі Івана Фёдарава пацвярджаюцца выданнем ім, апрача духоўных кніг, твораў спецыфічна беларускіх аўтараў («Храналогія» Андрэя Рымшы, 1581 і інш.).

Уласна нашы меркаванні аб беларускіх арыентацыях І. Фёдарава засноўваюцца на аналізе тэкстаў яго вучэбных кніг, у прыватнасці, у выданнях «Азбукі» і «Граматыкі», дзе, фактычна, супраць правіл старaславянскі тэкст перасыпаны мясцовымі беларускімі словамі.

І асобную старонку, так бы мовіць, беларускай дзейнасці Івана Фёдарава мог бы скласці «Лексіс з талкаваннем славенскіх моў проста», з яго цалкам беларускім корпусам лексікі ў тлумачальнай частцы, вядома, калі б удалося пацвердзіць яго аўтарства на карысць І. Фёдарава.

Меркаванні, чаму я аддаю перавагу ў аўтарстве «Лексіка з талкаваннем славенскіх моў проста» перад іншымі таленавітымі дзеячамі Івану Фёдараву, мною і выкладзены ў артыкуле на старонках «Голасу Радзімы» (дарэчы, першапачатковая назва якога была проста «Старабеларускія слоўнікі», бо ў іх пералік уваходзяць помнікі не толькі XVI стагоддзя).

Цяпер уся справа за далейшымі архіўнымі росшукамі. Ісціну магла б пацвердзіць зверка слоўніка-прыточніка з тэкстамі тагачасных выданняў і, перш за ўсё, — Астрожскай «Бібліі» (1581 г.) І. Фёдарава, найбольш верагоднага, на нашу думку, аўтара «Лексіса... проста». Вырашэння пытання аўтарства на карысць Івана Фёдарава значна б пашырыла нашы ўяўленні пра беларускі бок дзейнасці славутага першадрукара.

**Алена ЯСКЕВІЧ.**

**Раю пакарыстацца наступнай літаратурай:**

**1. Лукомский В. К. К вопросу о родопроисхождении И. Федорова (Иван Федоров — первопечатник) М. Л. 1935. С. 167—175.**

**2. Немировский Е. Л. Иван Федоров в Белоруссии. М. 1979 г. Острожская «Азбука» Ивана Федорова: Исследование. Словоуказатель. М., 1983;**

**Федоровские чтения. 1983. М., 1987.**



**Разнастайныя інтарэсы выкладчыка Навагрудскай музычнай школы Тамары НАЗАРЭНКІ (на здымку). Яна піша вершы і музыку да іх, захапляецца спортам, выдатна іграе на акардэоне і гітары. Аб такіх людзях гавораць — душа кампаніі. У Тамары расце слаўны сынок. А нядаўна яна стала студэнткай-завочніцай Ленінградскага інстытута культуры імя Крупскай.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**

# ЭСПЕРАНТА — МОВА ДРУЖБЫ

Выстаўка твораў мастацкай і тэхнічнай літаратуры, слоўнікаў, падручнікаў на міжнароднай мове эсперанта экспанавалася нядаўна ў Палацы культуры прафсаюзаў у Брэсце. Яна была прысвечана 70-годдзю гэтага міжнароднага руху ў Беларусі. На стэндах было прадстаўлена каля 300 кніг. Многія з іх выдадзены ў 1909—1912 гадах і прысланы з Польшчы, Балгарыі, ГДР, ФРГ, Англіі, Францыі, Даніі, Японіі і іншых краін. Тут «Бацькі і дзеці» І. Тургенева, «Князь Сярэбраны» А. Талстога, «Рэпартаж з пятлёй на шыі» Ю. Фучыка, эсперанта-энцыклапедыя, «Гісторыя эсперанта» Э. Прывата, «Пад прыгнётам» І. Вазава (Балгарыя), «Капітанская дачка» А. Пушкіна (выдадзена ў 1927 годзе ў Берліне), «Фараон» Б. Пруса (Польшча), «Камуністычны маніфест» К. Маркса і Ф. Энгельса (Японія). Цікавасць для гледача ўяўлялі і часопісы, якія выдаюцца на гэтай міжнароднай мове: «Пацо»—ГДР, «Інтэрнацыіста»—Аўстрыя, «Рэха» — Данія, «Славака эсперантыста» — ЧССР, «Хунгара-Віва» — Венгрыя, «Эль папаля Чыніо» — Кітай; калекцыя значкоў, марак, каляндарыкаў і паштовак, атрыманых энтузіястамі эсперанта-клуба «Цытадэль» ад сваіх замежных сяброў.

Эсперанта-клуб «Цытадэль» створаны 8 гадоў назад, на правах пярвічнай арганізацыі ўваходзіць у склад Саюза эсперантыстаў СССР.

Ен аб'ядноўвае рабочых, інжынераў, студэнтаў, выкладчыкаў, урачоў і вучняў, падтрымлівае сувязі з калегамі з Польшчы, ГДР, Балгарыі, Венгрыі, ФРГ, Швецыі, Кітая, Кубы, Албаніі, ЗША і іншых краін.

Эсперанта-клуб, які мае вялікую бібліятэку слоўнікаў, даведнікаў, іншую навучальную літаратуру, арганізаваў курсы для пачынаючых. Асабліва інтэнсіўна развіваецца эсперанта-рух у сучасны момант. Калі ў 1981 годзе ў Беларусі быў адзін такі клуб—у Мінску, то цяпер іх налічваецца 9, ва ўсіх абласных цэнтрах.

Аўтар гэтых радкоў — удзельнік Сусветнага Кангрэса эсперантыстаў, які праходзіў у Варшаве ў 1987 годзе, калі адзначалася 100-годдзе эсперанта. Гэта мілагучная ў вымаўленні і лёгкая ў вывучэнні міжнародная мова — важны сродак зносін паміж людзьмі. Мова эсперанта — мова міру, дружбы і брацтва.

Віктар ЯРАШЭВІЧ.





Чарныш на паляванні.

Фотаэцюд А. ВІКТАРАВА.

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Шукаецца ГАРДЗЕЙЧЫК Васіль Сцяпанавіч 1911 года нараджэння. Да 1939 года ён жыў у вёсцы Вялікія Бярозаўцы Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. У час другой сусветнай вайны трапіў у палон, затым апынуўся ў Англіі. У 1949—1950 гадах з ім вялася перапіска, якая неўзабаве абарвалася.

Яго шукае дачка ВАРАБЕЙ (ГАРДЗЕЙЧЫК) Вера Васільеўна.

Просьба да ўсіх, хто ведае пра лёс названай асобы, паведаміць у рэдакцыю або па адрасу:

231540, БССР, Гродзенская вобласць,
Шчучынскі раён, вёска Якубовічы.
ВАРАБЕЙ Веры Васільеўне.

# спорт

ТЭНІС. Мінчанка Наталля Зверава заняла першае месца на міжнародным турніры, які прайшоў у Аўстраліі. Беларуская спартсменка на шляху да фіналу перамагла мацнейшых тэнісістак свету Х. Сукаву (Чэхаславакія) і галандку Б. Шульц. А ў рашаючым матчы нанесла паражэнне аўстралійцы Р. Мак Кілан — 6:4, 6:0.

ГАНДБОЛ. Бяспройгрышную серыю сустрэч з замежнымі зборнымі прадоўжыла каманда СССР. Савецкія гандбалісты на нядаўнім турніры ў Іспаніі перамаглі спартсменаў Польшчы, Швейцарыі, гаспадароў і выйгралі галоўны прыз. Добра гулялі на гэтых спаборніцтвах мінчане Аляксандр Каршакевіч, Аляксандр Тучкін, Міхаіл Якімовіч, Георгій Свірыдзенка і Канстанцін Шараварaў.

БАСКЕТБОЛ. Паспяхова праводзяць міжнародныя сустрэчы спартсменкі мінскага «Гарызонта». Асабліва вызначым міжнародны турнір у Лондане. «Леўскі-Спартак» (Балгарыя), «Солна» (Швецыя)... Вось далёка не поўны пералік вядомых у Еўропе каманд, якіх адолелі беларускія спартсменкі і сталі пераможцамі турніру.

ХАКЕЙ. У час перапынку першынства Савецкага Саюза мінская каманда «Дынама» правяла турнэ па Японіі. Тут яна згуляла з нацыянальнай зборнай тры сустрэчы і ва ўсіх дамагалася перамогі — 5:1, 6:1, 4:3.

КАНЬКІ. На катку Медэо прайшлі спаборніцтвы мемарыялу Кісялёва. Яны сабралі практычна ўсіх мацнейшых канькабежцаў - спрынтэраў краіны, бо з'яўляліся адборачнымі да чэмпіянату Еўропы і свету.

Па-за канкурэнцыяй быў тут трохразовы чэмпіён свету Ігар Жалязоўскі. Наш зямляк больш чым на два ачкі апярэдзіў масквіча Андрэя Бахвалава ў суме спрынтэрскага мнагабор'я.

# У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ

Калекцыі філатэлістаў за апошнія некалькі месяцаў папоўніліся новымі цікавымі выпускамі.

Праблемам экалогіі прысвечаны тры паштовыя маркі з купонамі. Серыю адкрывае мініяцюра, на малюнку якой сосны і лясная птушка. Тэкст на марцы — «Беражыце лес — лёгкія планеты!» На наступнай марцы паказаны паўночныя прыбярэжныя прасторы. Тэкст на мініяцюры гаворыць: «Захавайце прыроду Арктыкі!»

У Расіі самавары шырока распаўсюдзіліся ў XVIII стагоддзі, стаўшы ўвасабленнем рускай гасціннасці і сямейнай утульнасці, прадметам бытавой культуры. На чатырох марках новай серыі самавар грушападобнай формы XVIII стагоддзя, самавар-бочачка работы туляка Івана Лісіцына (пачатак XIX стагоддзя), самавар «Шынок» тульскай фабрыкі братоў Сакаловых (1930 год). І завяршае арыгінальную серыю марка з адлюстраваннем самавара-вазы фабрыкі Малікава з Тулы (1850 год).

Некалькі марак і канвертаў прысвечаны юбілейным датам. Адна звязана з жыццём і творчасцю выдатнага рускага кампазітара М. Мусаргскага, чыё 150-годдзе з дня нараджэння мы адзначылі нядаўна. На марцы адлюстраваны партрэт кампазітара работы І. Рэпіна на фоне сцэны з оперы «Барыс Гадуноў». Другая марка прысвечана стагоддзю з дня нараджэння вядомага савецкага военачальніка П. Дыбенкі, імя якога было асабліва папулярным у кастрычніцкія дні 1917 года і ў гады грамадзянскай вайны: сын беднага селяніна стаў адным з кіраўнікоў Чырвонай Арміі, многа зрабіў для яе ўмацавання.

Да 150-годдзя з дня нараджэння рускага географа, даследчыка Цэнтральнай Азіі М. Пржэвальскага выпушчаны мастацкі канверт — удзельнікі экспедыцыі на фоне геаграфічнай карты з маршрутамі падарожжаў. На марцы партрэт М. Пржэвальскага. Гэты канверт папоўніў тэматычную падборку філатэлістычных матэрыялаў пра Беларусь. Нядаўна выяўлены архіўныя дакументы, якія расказалі нам аб продках-беларусах вядомага падарожніка.

Творчасць вялікага англійскага драматурга Уільяма Шэкспіра даўно і заслужана здабыла сабе шырокую славу. Да 425-годдзя з дня нараджэння драматурга Міністэрства сувязі СССР выпусціла паштовую картку з арыгінальнай маркай. На яе малюнку — партрэт У. Шэкспіра, выкананы з гравюры М. Дройсхута 1623 года, на другім плане — тэатр «Лебедзь» у Стратфардзе-он-Эйване, з якім звязана творчасць вялікага драматурга. На малюнку—сцэны са спектакляў «Рамэо і Джульета» і «Віндзорскія свавольніцы». У цэнтры маркі на фоне тэатральнай заслоны юбілейны надпіс «425 год з дня нараджэння Уільяма Шэкспіра».

Л. КОЛАСАЎ.


РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 52.